# ПАГОНЯ

РЭГІЯНАЛЬНЫ АГЛЯД: ГОРАДНЯ-ВІЛЬНЯ-БЕЛАСТОК

ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

№ 12(68) — 22 красавіка – 5 траўня 1994 г. — Кошт 150 руб.


**ТЭАТР АДНАГО АКЦЁРА.** *Нардэп Лукашэнка ў «горадзе-герої» Горадні.*

**ГАРАЧАЕ ЛЕТА 72-га.** *Міліцыянты хапалі ўсіх даўгакосых і выстрыгалі на галаве крыж...*

*Атрад налічваў усяго 20 валанцёраў, але ЁН* **НАВОДЗІЎ ЖАХ НА МУСУЛЬМАН.**

**ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ НА ТЫДЗЕНЬ:** *Менск – Варшава – Масква.*

## ХРЫСТОС УВАСКРОС! САПРАЎДЫ ЎВАСКРОС!

Набліжаецца вялікае сьвята Сьветлага Хрыстова Уваскрашэньня. Для праваслаўных вернікаў гэта лічыцца галоўным сьвятам гадавога кола. Вялікдзень дасloўна азначае "праходжаньне міма бяды й выратаваньня." Калі ўВетхазапаветны Вялікдзень габрэйскі народ быў вызвалены ад эгіпэцкай няволі і габрэйскія немаўляці пазбаўлены ад усячэньня мячом ангэла, то ў Новазапаветны Вялікдзень усе людзі былі выратаваныя ад няволі дэману й няволі граху. У гэты дзень зьдзейсьнілася наша пераходжаньне ад сьмерці да жыцьця й ад зямлі да неба. Але каб гэта пераходжаньне адбылося, патрэбна была вялікая выратавальная ахвяра. Такой ахвярай, пасьля выгнаньня нашых прашчураў Адама і Евы, а астаткова і ўсяго чалавецтва, мог быць толькі сам Бог. Ён нарадзіўся ад Дзевы, жыў без граху на зямлі, выконваў усе запаветы, прапаведаваў, вучыў, даў усім людзям галоўныя Новазапаветныя законы любові да Бога й любові да бліжняга, на якіх высноўваецца ўвесь Новы Запавет.

Затым прыняў асуджэньне, хросныя мукі, вольную сьмерць і пахаваньне, пайшоў у пекла, каб вывесьці адтуль душаўгоднікаў божых. Хрыстос уваскрос. І мы ня можам ня верыць гэтаму, у іншым выпадку кажа апостал:"Калі Хрыстос не ўваскрос, то і пропаведзь наша бязсэнсоўна, і вера ня боская.

Уваскрашэньне Хрыстова - урачыстасьць, зьмест і высновы ўсёй хрысьціянскай веры. Калі б ня было Уваскрашэньня Хрыстова, то ня толькі не было б хрысьціянства, але й сама вера ў Бога, у сілу дабра й праўды была падарвана, страціўся сэнс жыцьця. Калі б замучаны Хрыстос не уваскрос, то і ня толькі не было нікому выратаваньня праз яго, але й не было б у гісторыі горшай урачыстасьці і большай насьмешкі зла над дабром і дэмана над усім сьветам сьветлага й выьанчанага, як у дні Галгофы і ўвогуле ўсяго зямнога жыцьця Госпада Ісуса Хрыста. І не было б больш моцнага й непаўторнага да жальбы і адчаю, бо калі й гэты прапаведнік апынуўся бязмоцны, калі такая Найвялікшая Асоба знікла ў бездані нябыцьця, тады нам, кожнаму з нас, чаго чакаць, да чаго рыхтавацца?

Але уваскрос Хрыстос - і застаўся зьнішчаны й беззапашаны "бацька маны, чалавекаўбійца - дэман" (Іаан ап. 8, 44). Жыцьцё перамагло сьмерць! Сьмерць, адвечная сьмерць і зло прыведзены да пусстэчы і пpыніжэньня.

Хрыстос уваскрос - і поўнымі промнямі зазьзяла Яго Боскае-Царскае Панаваньне, хоць і да скону веку "дэман змагаецца з Богам, а пасьля бітвы - сэрца чалавечае." Хрыстос сапраўды ўваскрос! Аб гэтай Найвялікшай Падзеі ўсёй гісторыі сьвету маецца мноства яскравых фактаў.

Адзін з іх - Гэта Цуд двухтысячагадовай гісторыі: прышэсьце Высакароднага Агню з неба штогод і па сёньняшні дзень. Толькі ў праваслаўны Вялікдзень на Труну Госпадню ў сьвятым Месьце Ерусаліме зыходзіць гэты цудны Агонь, які атрымлівае толькі праваслаўны Ерусаоімскі Патрыярх, а затым раздае яго людзям, што прыйшлі ў Храм Труны Госпадняй і зьмешчанай на прысаборным пляцы. Гэты Сьвяты Агонь у першыя хвіліны ня спальвае, а мае нязвыклы нябесны колер. Многія людзі, "амыўшы твар" гэтым Высакародным Агнём, лекаваліся ад сваіх хвароб. снуе думка, што да тых часоў, пакуль на Вялікдзень на Труну Госпадню будзе зыходзіць з Неба Агонь, да таго часу і будзе існаваць сьвет.

Імша на Вялікдзень выконваецца пры адчыненай Царскай Браме ў гонар таго, што Уваскрэшаньнем Хрыстовым адчынена для ўсіх нас Брама Царства Боскага. Усе Вялікодныя дні мы павінны вітаць адзін другога словамі:"Хрыстос Уваскрэсе! Сапраўды Ўваскрэсе!", мяняцца фарбаванымі яйкамі, якія служаць сымболем новага высакароднага жыцьця, якое зьявілася з Труны Выратаваллыніка.

## ВІЛЕНСКІЯ ПАВЕДАМЛЕНЬНІ

* З 28 красавіка пачынае дзейнічаць пастанова ўрада Расейскай Фэдэрацыі аб увядзеньні візавага парадку ўезду грамадзян Летувы на тэрыторыю Расеі. Грамадзяніну Летувы, які зьбіраецца наведаць Расею, папярэдне нaбходна зьвярнуцца ў пасольства РФ у Вільні ці гэнконсульства ў Клайпэдзе за візай. Тэрміна афармленьня - 7-10 дзён. Па тэлеграме аб хваробе, сьмерці блізкіх, сваякоў яе зробяць за 24 гадзіны. Да 18 лютага 1995 года для грамадзян былога Саюза, якія пастаянна пражываюць у Летуве, але ня маюць яе грамадзянства, захоўваецца бязвізавы рэжым. Пакуль не патрэбны візы экіпажам марскіх, рачных і паветраных судоў, а таксама ччыгуначнікам.

* На сёньняшеі дзень у Летуву хацелі б вярнуцца больш за 350 сем'яў ссыльных і палітвязьняў. У бліжжэйшы час іх колькасьць можа павялічыцца да двух тысяч. Пакуль самае складанае пытаньне - забесьпячэньне гэтых людзей жыльлём. З дзярббюджэта сёлета выдзелена 3,1 мільёна літаў на будаўніцтва кватэр, а таксама паўмільёна на стварэньне работадаўцамі дадатковых рабочых месцаў. Тым, хто вырашыць пачаць сваю справу, будзе кампэнсавана 50% выдаткаў. Акрамя таго, 300 тысяч літаў выдзелена на курсы па вывучэньню летувіскай мовы для тых, хто вяртаецца на Радзіму.

* Прадказаная раней аварыя сапраўды можа адбыцца ў сакавіку 1997 года. Такую думку выказаў вядомы астролаг П.Глоба пасьля агляду памяшканьняў двух блёкаў Ігналінскай АЭС. Паміж ім і адміністрацыяй электрастанцыі падпісаны дагавор аб доўгатэрміновым супрацоўніцтве. Прадказальнік працягне свае дасьледваньні станцыі ў траўні бягучага года й будзе аказваць свае паслугі бязплатна.

* Праграма навучаньня вайсковых маракоў Летувы ў вайскова-марской акадэміі швэдзкага горада Карлскруны ўраднёна ў час візыту ў Клайпэду камандуючага каралеўскім флётам Швэцыі адмірала Стэна Свэдлунда. Зараз аб'яўлены конкурс па адбору першых трох кандыдатаў. У ім могуць прыняць удзел юнакі, якія скончылі унівэрсытэты, сярэднія й мараходныя школы ці вучацца на першых курсах вайсковай акадэміі. Працягласьць навучаньня - тры гады . Увогуле сумесная праграма падрыхтоўкі кадраў разьлічана на дзесяць гадоў.

* Летась у краіне зарэгістравана 2818 адгонаў аўтамабіляў (у 1992 годзе - 1582). А за апошнія два месяцы толькі ў Вільні іх скрадзена 27, што ўдвая больш, чым за той жа пэрыяд мінулага года. Каля 80 працэнтаў выкоадзеных у Летуве аўтамашын трапляе на Ўсход. Дарожнай паліцыяй Летувы зарэгістравана таксама больш за 800 аўтамабіляў, скрадзеных на Захадзе. Яна ламае галаву, як іх канфіскаваць і вярнуць уладальнікам, бо ў Летуве яны набыты на законных падставах.

(лд)



## ВОСЕМ ГОД ТАМУ ПРА ГЭТУЮ ТРАГЭДЫЮ ЗМАЎЧАЛІ

Міцінскія клады ляжаць на самым ускрайку Масквы. За жалезнай брамай кладоў мэтрах у ста пяцідзесяці, акружаныя маладзенькімі бярозкамі, месьцяцца шаснаццаць мармуровых помнікаў загінуўшым у першыя хвіліны аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Чацьвёра іхніх сяброў ляжаць у іншых месцах. Валеры Хадзямчук, апэратар машыннай залі, загінуў раптоўна ў час выбуху, яго рэшткі пахаваны пад тонамі друзаў чацьвёртага блёку. Яшчэ трое яго калегаў памёрлі неўзабаве пасьля выбуху, яны пахаваны ў Кіеве.

Некалькі соцень чалавек былі прывезены ў Маскву паветраным шляхам на адмысловае лекаваньне. Хто-ніхто выжыў, але рэшта палегла на вечны спачын за мурамі Міцінскага могільніка.

І хоць на маскоўскіх кладах ляжаць пераважна ўкраінскія хлопцы, наша зямля пацярпела болей за ўсіх. Фактычна кожная другая тона шкодных рэчываў упала на тэрыторыю Беларусі.

Жыць пры такой шчыльнасьці забруджваньня нельга, але ўлады камуністых падманулі людзей.

На жаль, працяглае ўзьдзеяньне дозаў радыяцыі значна падвысіла колькасьць хворых, асабліва гэта тычыцца дзяцей. Як сьведчаць дадзеныя кафэдры дзіцячых хвароб ГДМІ, спэцыялісты якой працавалі ў забруджаных раёнах Гарадзеншчыны й Гомельшчыны, бадай у кожнага з 30 тысячаў абсьледаваных дзяцей выяўлены парушэньні шчытападобнай залозы, падстаўнікавай залозы, эндакрынный сыстэмы, а нядаўна ў Чычэрскім раёне ў дзяцей выяўлены анамаліі ў разьвіцьці зубоў. Мэдыкі зьвязваюць хваробу з працяглым узьдзеяньнем стронцыя на костную сыстэму маладога арганізму.

Калі так пойдзе й далей, то на Беларусі зьявяцца свае, значна большыя Міцінскія клады.

**Г.АСТРОЎСКІ.**

## ВЕСТКІ З ПОЛЬШЧЫ

Прэзыдэнт Л.Валэнса падпісаў ухвалены сэймам бюджэт дзяржавы на 1994 год. Ён заявіў, што намерваецца ўнесьці супрацў да закону аб выбарах у гмінныя рады, паколькі, на яго думку, такі закон вядзе да палітызацыі самаўрадавых выбараў.

19% рэспандэнтаў Інстытута дасьледваньня грамадзкай думкі на пытаньне, што найбольш пасьпяхова ўплывае на рашэньні ўлады, адказалі: паслы й сэнатары, 13% лічаць, што страйкі, а 10% - што журналісты, 7% апытаных указалі на выбары ў мясцовыя самаўрады. Толькі 4% рэспандэнтаў апошняга апытаньня сцьвердзілі, што на працягу апошняга года павялічыўся ўплыў грамадзтва на ход падзей ў краіне.

Праўдападобна, што яшчэ ў гэтым годзе пачнецца будаўніцтва польскага адрэзка газапровада "Расея - Нямеччына". На тэрыторыі Польшчы плянуецца збудаваць пяць ці шэсьць газакампрэсарных станцый, у тым ліку адну на тэрыторыі Беластоцкага ваяводзтва. Газапровад у Польшчу ўвойдзе з тэрыторыі Беларусі каля вёскі Кандраткі Міхайлаўскай гміны.

Пяцігадовы юбілей адзначала Беластоцкае аддзяленьне польскіх літаратараў, якое гуртуе пісьменьнікаў Беластока, Сувалак і Астраленкі. У ім налічваецца 25 членаў , у тым ліку і 9 членаў беларускага літаратурнага аб'яднаньня "Белавежа".

У конкурсе на каралеву прыгажосьці Падлешша перамагла ў гэтым годзе 20-цігадовая Кацярына Алексяюк з Гайнаўкі. Падляшская прыгажуня вучыцца ў мэдычнай вучэльні ў Беластоку.

Службовыя кантакты праз дзяржаўную граніцу наладзілі брэсцкія міліцыянты з польскімі паліцыянтамі. Асабліва добра ідуць справы ў пошуку крадзеных аўтамабіляў. Сумесныя апэрацыі дапамаглі выявіць шэраґ злодзеяў, якія займаліся перагонам і продажам аўтамабіляў на тэрыторыі іншых краін.

**Па матэрыялах польскай прэсы.**

**Наступны нумар «Пагоні» выйдзе 6 траўня 1994 г.**





# ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

## ЗАМЕСТ КЛАРЫ НОВІКАВАЙ ВЫСТУПАЎ ЛУКАШЭНКА. КАНЦЭРТ ПА ЎЗРОЎНЮ АМАЛЬ НЕ ЎСТУПАЎ І ДА ТАГО БЫЎ ДАРМОВЫМ

У мінулую пятніцу ў Горадні адбыўся канцэрт, а калі казаць больш па-сучаснаму - шоу. З арыгінальнай праграмай выступаў нардэп Лукашэнка. Той самы дырэктар саўгаса з Магілёўшчыны, што сваім мастацтвам з беларускай мафіяй змагаецца. Ёнязшчэ, калі памятаеце, ці не за слоік фарбы "отстранил от власти" Шушкевіча, а потым, калі замахнуўся на самага Кебіча, то ў яго габінэт залезлі ўначы, абакралі сэйфы, апламбавалі дзьверы, адабралі машыну з шафёрам...

Ну і даваў ён у горадзе-героі Горадні (хіtры, бо наперад гораду новае званьну прысвоіў). Пачаў з галавы. Ірад, маўляў, езьдзіць на гастролі ў Маскву, там праводзіць свае шоу з рублёвай зонай, каб Кебічу выбрацца ў прэзыдэнты. Сам ён зараз быццам бы супраць гэтай самай зоны. Трэба было рабіць яе тады, калі сам Лукашэнка ў складзе дэлегацыі езьдзіў, а без яго - хіба гэта зона. Гледачы (у асноўным адстаўнікі, пэнсіянэры,якім нават месца не хапіла ў малюсенькай зале "Тэкстыльшчыкаў"), стоячы пад вакном, пачалі пераглядацца: дык з Расеяй ён ці за самастойнасьць? Так і ня ўцямілі. А ён усё па Кебічу ды па Грыбу, маўляў, прадалі, мафія ня пройдзе. Даў і генэралам. Лаяў Казлоўскага за тое, што зброю прадаў у Югаславію, дзе вайна ідзе, чахвосьціў Данько, што з мафіяй ня хоча змагацца й разваліў усе структуры, якія ёй супрацьстаялі. Сваім слухачам падваліў за тое, што нагадавалі такіх у Горадні, а Лукашэнку, бачыш, цяпер разграбай.

Маўчалі й слухалі.

Трохі праехаўся па БНФ, але вэтэранам уставіў за тое, што надаюць Фронту ўвагу, бо не ён (БНФ) кіруе РБ, а былая партнамэнклятура, якая ў мафію зьбілася. Адзінае ўзгадаў, што Пазьняк падтрымаў прапановы намэнклятуры, каб у Канстытуцыі было запісана, што прэзыдэнтам РБ можна быць з 45 гадоў. А яму, Лукашэнку, толькі 39. Не дарue, напэўна, да сьмерці таму Пазьняку.

Запэўніў слухачоў, што "чэсныя" людзі ў КДБ і МУС і нават рознага роду чыноўнікі, таксама "чэсныя", яго падтрымліваюць.

Спыніўся на справах пакойнага кіраўніка нашай вобласьці Д.Арцымені. Той, напэўна, у труне варочаўся. Маўляў, нябожчык у свой час выкручваў рукі розным кіраўнікам прадпрыемстваў, каб яны СП стваралі і за мяжу перакачвалі багацьці Беларусі. Шкадаваў, што не пасьпеў нябожчыка аб гэтым пры жыцьці расказаць, але перад жонкай яго прасіў прабачэньня. Аб сучасным старшыні казаць пабаяўся, хоць і пыталі. Чакае, відаць...

Аказваецца, дабраўся й да тутэйшых палякаў, праўда, з яго слоў, яны яго самі да сябе ў сядзібу запрасілі. Іх шкадаваў - добрыя людзі,і калі стане прэзыдэнтам, то абяцаў, што ўсіх 300 тысяч з усяе Беларусі адразу пусьціць да сябе на прыём.

Улюбёным пытаньнем ад прысутных было: ці праўда, што ён, Лукашэнка, з трактарыстамі ў калгасе біўся. Задавалі некалькі разоў. Нардэп патрабаваў, каб прадаставілі доказы, інакш гаварыць пра гэта ня будзе.

Заранёў крыўдаваў на гарадзенскую прэсу, маўляў, абальe брудам. Хваліўся, што вышэйшую адукацыю быццам бы мае. Але калі б яму хто-небудзь даў дарэмных урокаў хоць бы па культуры рускай мовы, бо беларускую ён, мабыць, ніколі не адолее.

Урэшце выказаў і свае адносіны да беларускага адраджэньня. Нехта пусьціў плётку, што гэта ён першым у Вярхоўны Савет Бел-чырвона-белы сьцяг унёс. Бажыўся, што не так, і сьпіхнуў гэту справу на Шушкевіча. А ён,Лукашэнка, дагэтуль нават значок нардэпа з БССРаўскіх часоў не зьнімаў. Ён ва ўсім ВС такі адзін і не здрадзіць сваім ідэалам. А гэты Бел-чырвона-белы разам з Пагоняй, калі стане прэзыдэнтам, за адну ноч па ўсёй краіне заменіць.

Канешне. Калі б Клара Новікава, як і абяцала шматлікая рэклама, прыехала б усё-такі ў Горадню (а не раптоўна захварэла), то яе шоу было б, безумоўна, больш цікавейшым. Затое ў Аляксандра Рыгоравіча ніякіх праблем са здароўем. Ён - больш надзейны гастралёр...

"Канцэрт" працягваўся каля дзьвюх гадзін. Больш сьмяяліся, падчас задумваліся: ці не прыйдзецца з такімі артыстамі, як Лукашэнка, яшчэ й заплакаць?

**Спадар.**



## «МЫ АДКАЗНЫЯ ЗА ЛЁС БАЦЬКАЎШЧЫНЫ»

### НА ПАШЫРАНЫМ ПАСЯДЖЭНЬНІ ГАРАДЗЕНСКАЙ РАДЫ БНФ

У мінулую суботу Гарадзенская Рада БНФ правяла пашыранае пасяджэньне, на якім прысутнічалі ўсе тыя людзі, хто пойдзе зьбіраць подпісы за кандыдата ў прэзыдэнты Беларусі Зянона Пазьняка, а таксама госьці з Менску, лідэры БНФ - З.Пазьняк, Ю.Хадыка, В.Вячорка, Л.Баршчэўскі.

З кароткай інфармацыяй аб палітычнай сытуацыі ў краіне выступіў З.Пазьняк. Ён адзначыў, што, падпісаўшы пагадненьне аб рублёвай зоне, Кебіч парушыў чатыры артыкулы Канстытуцыі Беларусі й адзін артыкул крымінальнага кодэксу. І ўвогуле, гісторыя такога не памятае, каб прэм'ер-міністр так па-здрадніцку здаваў незалежнасьць сваёй краіны.

Зянон Станіслававіч давёў да сабраўшыхся аб сутнасьці захадаў, якія ўжо зрабіла апазыцыя й будзе рабіць падчас сэсіі, каб не дапусьціць продажу Бацькаўшчыны.

Шмат увагі надзялялася будучым выбарам у прэзыдэнты. Да лідараў Фронта было мноства пытаньняў і асабліва цікавіла тое, як уберагчы подпісныя лісты ад фальсыфікацыі, паколькі даверу да ўрадавых структураў няма; з якімі партыямі й рухамі БНФ будзе супрацоўнічаць...

Амаль кожны з выступаючых спыняўся на палітычнай і эканамічнай праграмах БНФ, паколькі гэта будуць ці не галоўныя аргумэнты падчас выбарчай кампаніі. Падкрэсьлівалася, што БНФ павядзе сябе падчас выбарчай кампаніі, як і належыць дэмакратам: не абражаючы сваіх сапернікаў.

Зянон Пазьняк зазначыў, што стаім мы на цяжкім шляху, й выбарамі прэзыдэнта гэта барацьба ня скончыцца. Наперадзе выбары ў Вярхоўны Савет. А што датычыць страты незалежнасьці, то лідар БНФ заявіў:"Я ад прыроды аптыміст і не магу ўявіць, што мы згубім нашу дзяржаўнасьць. Нам вельмі важна зараз не зрабіць памылак, бо мы адказныя за лёс Бацькаўшчыны."

**М.К.**

## САЮЗ ПАЛЯКАЎ ІЗНОЎ ВЫСТУПАЕ РАЗАМ З БНФ

У барацьбе за прэзідэнцкае крэсла Саюз палякаў Беларусі будзе падтрымліваць Зянона Пазьняка - гэта яшчэ раз было падкрэслена ў Горадні, дзе Рада Саюза палякаў сустрэлася з лідэрамі Народнага Фронту: З.Пазьняком, Ю.Хадыкай, В.Вячоркам ды іншымі.

Абодва бакі, нягледзячы на некаторыя дробныя непаразуменьні, у галоўным сыходзяцца - патрэбна незалежная Беларусь, ніякіх рублёвых зонаў.

"Гэта зараз галоўнае, - заявіў старшыня Саюза палякаў спадар Гавін, - і дзеля гэтага мы павінны аб'ядацца."

Прэзідэнтам, як гарантам дэмакратычнае Беларусі, можа стаць зараз толькі лідэр Беларускага Народнага Фронта Зянон Пазьняк - вось галоўнае рэзюмэ сустрэчы.

**М.К.**

## АМАТАРЫ ПІВА СТАВЯЦЬ НА... МАТЭМАТЫКА

Зьявіўся яшчэ адзін прэтэндэнт на пасаду прэзыдэнта Беларусі. Партыя аматараў піва афіцыйна аб'явіла сваім кандыдатам на пост кіраўніка дзяржавай 38-гадовага выкладчыка матэматыкі з Салігорска Аляксандра Кальцова.

Як растлумачыў лідэр ПАП Андрэй Рамашэўскі, кандыдатура сьціплага правінцыйнага пэдагога была вылучана пасьля спэцыяльна праведзенага апытаньня насельніцтва. Па словах спадара Рамашэўскага, А.Кальцоў ідэальна адпавядае патрабаваньням беларускага народа да будучага прэзыдэнта - сьціплы, інтэлігентны й сымпатычны, ён нават не зьяўляецца членам Партыі аматараў піва, а ўвогуле чалавек нэйтральны.

На думку кіраўніцтва ПАП, гэта забясьпечыць яго вывучэнцу перамогу на выбарах. Партыя ўжо пачала кампанію па збору 100 тысяч подпісаў у падтрымку кандыдатуры спадара Кальцова. Посьпех акцыі ў лідэраў ПАП не выклікае сумненьняў, бо, як удакладніў Рамашэўскі, у аматараў піва дастаткова грошай, каб аплаціць паслугі зборшчыкаў подпісаў.

## НАЦЫЯНАЛЬНА-ДЭМАКРАТЫЧНАЯ СТАЛА ПРОСТА НАЦЫЯНАЛЬНАЙ

У Менску адбылася ўстаноўчая канфэрэнцыя Беларускай Нацыянальнай партыі. Зьяўленьне яе стала вынікам якасных пераўтварэньняў Нацыянальна-дэмакратычнай партыі Беларусі.

У праграме БНП асноўная ўвага нададзена нацыянальнай ідэі, якая, на думку членаў партыі, можа аб'яднаць беларусаў і вывесьці краіну з крызысу. Беларуская Нацыянальная партыя разьлічвае стаць магутнай арганізацыяй, бо лічыць, што яе ідэі арыентаваны на кожнага сумленнага беларуса, якому неабыякавы дабрабыт і росквіт Бацькаўшчыны.

**МАС-МЭДЫА ЦЭНТР.**

## ШУШКЕВІЧ У ГОРАДНІ

У аўторак Горадню наведаў Станіслаў Шушкевіч, каб сустрэцца з ініцыятыўнай групай, якая будзе зьбіраць подпісы ў яго падтрымку на кандыдата ў прэзідэнты Беларусі.

З самай раніцы Станіслаў Шушкевіч наведаў сядзібу Саюза палякаў Беларусі, сустрэўся з Беларускім аб'яднаньнем вэтэранаў Горадні, якая была нядаўна ўтворана дзеля таго, каб супрацьстаяць "намэнклятурным" пэнсіянэрам.

У Палацы культуры "Юнацтва" адбылася сустрэча з грамадзкасьцю горада, на якой С.Шушкевіч адказаў на шматлікія пытаньні.

**(ав).**

## ГРАФ ПРУШЫНСКІ ВЯРНУЎСЯ Ў БЕЛАРУСЬ І ХОЧА СТАЦЬ ЯЕ ПРЭЗЫДЭНТАМ

Нядаўна "Народная газета" паведаміла, што Аляксандр Прушынскі, грамадзянін Канады, які апошнім часам жыў у Беларусі й прэтэндаваў на пасаду прэзыдэнта краіны, цяпер высланы за межы Беларусі. На беларуска-польскай граніцы ён быў перададзены польскім уладам. Крайняя мера прыменена да графа за парушэньне парадка пражываньня замежных грамадзян згодна санкцыі намесьніка пракурора Менску П. Сыцепанчука. Паведамлялася таксама, што А.Прушынскі ўжо двойчы меў дачыненьні з уладамі накштальт парушэньня рэжыму пражываньня, аднак вывадаў не зрабіў.

Ужо ў суботу,г.зн. на наступны дзень пасьля публікацыі у "Народнай газэце", наш карэспандэнт сустрэў А.Прушынскага ў сядзібе Саюза палякаў у Горадні й быў гэтаму вельмі зьдзіўлены. Граф быў у бадзёрым настроі і з задавальненьнем адказаў на некаторыя пытаньні.

**- Спадар Прушынскі, нашы сродкі масавай інфармацыі паведамілі, што вас вывезьлі, а вы тут...**

- Спачатку мяне ўзялі й пасадзілі ў турму на чатыры дні, а потым выкінулі за межы Беларусі.

**- За што?**

- Я не заплаціў штраф за тое, што не рэгістраваўся. Але я гэта зьбіраўся ўжо зрабіць, мне нават не далі.

**- А чаму вас вывезьлі ў Польшчу? Вы ня маеце грамадзянства Канады?**

- Таму што першая граніца польская, а да Канады ў іх не хапіла б грошай даехаць. Я разумею,што парушыў існуючы рэжым, ня буду апраўдвацца. Але тое, як абыйшліся са мною, таксама ў галаве не ўкладваецца. Мне не прадаставілі ніякіх пісьмовых абвінавачваньняў, не далі нідзе расьпісацца. У Польшчы, да прыкладу, даюць копію такой паперы, і чалавек ведае, што й да чаго. А калі я потым, прасядзеўшы ў турме, пайшоў да начальніка й запытаў, за што мяне пасадзілі, ён сьмяяўся ў адказ:"Што, вы ня ведаеце, чаму?"

Больш таго, трымалі мяне ў такой турме... Ва ўсім сьвеце ў турмах даюць магчымасьць дваццаць-трыццаць хвілін гуляць, мяняюць бялізну, а тут...

**- А як жа вы зноў апынуліся ў Беларусі?**

- Ды вельмі проста, купіў у Польшчы ваўчар, сеў у цягнік і прыехаў.

Я ўжо два гады жыву ў Беларусі пастаянна й напрасіў, каб мне далі грамадзянства, але яны ўсё спэцыяльна зацягваюць і нічога ня робяць. А яшчэ нядаўна мне перадалі, што я гандляваў іконамі. Гэта ня праўда. Сёньня я скупляю гіенаў і шакалаў па ўсёй Беларусі, каб экспартаваць іх надалей, дзе-небудзь у Канаду.

**- Чым вы ўсё ж сур'ёзна думаеце заняцца ў Беларусі?**

- Сёньня я папрошу адпачываю, а ўвогуле хачу стаць прэзыдэнтам Беларусі, дзеля чаго й вярнуўся.

**М.КАРНЕВІЧ.**





ГРАМАДЗТВА

# АД РАБОЧАГА ДА БРАКАНЬЕРА – АДЗІН КРОК

У зводках крымінальнай хронікі нярэдка сустракаюцца паведамленьні аб тым, што асобы, якія нідзе не працуюць, учынілі шэраг злачынстваў ці злачынцы скралі ў беспрацоўнага рэчаў на некалькі мільёнаў рублёў. Гэта людзі, якім новы статус адкрыў магчымасьць зрабіць годным сваё жыцьцё, але іх ня вельмі шмат. Я ж выпадкова сустрэў чалавека, які, страціўшы працу, страціў усё, і такіх на Беларусі дзесяткі, калі ня сотні тысяч.

Раней Валік працаваў на заводзе. Атрымліваў па 200-220 рублёў. Апошнія два гады жыў адзін, бо разьвёўся з жонкай, якая здрадзіла яму. Зарабляючы па ранейшых мерках, няблага харчаваўся й апранаўся, час ад часу дазваляў сабе хадзіць у кіно ці кафэ з жанчынай, зьезьдзіць у час адпачынку да сваякоў, акрамя таго, штосьці пакідаў на ашчаднай кніжцы. Сума там скапілася даволі значная - 6 тысяч рублёў. Меркаваў хутка атрымаць кватэру, а пакуль жыў у інтэрнаце прадпрыемства. І калі б усё было як раней, напэўна, у другі раз ажаніўся б, стварыў бы новую сям'ю. Але яго скарацілі. У выніку ён страціў і заробак, і дах над галавою, і ранейшы дабрабыт. А калі б не жыла ў горадзе яго цётка, дык увогуле стаў бы бомжам.

Страціўшы працу, Валік ледзь не звар'яцеў. Першы час жыў на тое, што пакінула інфляцыя на яго ашчаднай кніжцы. Быў настолькі пакрыўджаны на грамадзтва, якое пазбавіла яго правоў, замацаваных Канстытуцыяй, што нават не пайшоў на біржу працы, каб зарэгістраваць свой статус. Потым уладкаваўся ў прамтаварную краму. Але аднойчы яму не пашанцавала: разгружаючы сэрвізы, ня ўтрымаў адзін. Яго разьлічылі й звольнілі з працы. Нікуды ў іншае месца ён ня змог уладкавацца.

Зараз, каб не памерці з голаду, Валік з дапамогай сеткі ловіць рыбу. Іншы раз нясе дамоў 3-5 кілаграмаў, а часам вяртаецца з пустымі рукамі. Ён, канешне, разумее тое, што робіць супрацьзаконна, але іншага выйсьця ня бачыць. Рыбу, па цане ніжэйшай, чым у крамах, прадае на торжышчы цётка. Аднойчы, калі рабіў гэта сам, падыйшлі некалькі алкашоў і пад пагрозай нажа забралі ўсе ўтарганыя грошы й рыбу, калі не пажадаў аддаць ім частку. Акрамя таго, ён вымушаны штодзённа працаваць. Часам ён робіць сабе адпачынак, апрануўшыся ва ўсё лепшае, што засталося, выходзіць у горад, каб паглядзець, як весяляцца заможныя, паўзіраць на дзяўчат.

Нічога сьветлага для сябе ў будучыні Валік ня бачыць, лічыць:"Усё лепшае ў маім жыцьці засталося ў мінулым." І яму ўсё роўна, хто стаіць ва ўладзе ці будзе стаяць: дэмакраты, камуністы, фашысты(!), галоўнае, каб яны далі магчымасьць не баяцца за заўтрашні дзень і працаваць на дзяржаву, бо новыя ўладары жыцьця (камэрсанты, бізнэсмэны), на яго думку, клапоцяцца толькі пра сябе й астатніх шчасьлівымі ня зробяць, бо падманваюць іх. Ён лічыць нармальнай зьявай тое, што раней тых, хто не жадаў працаваць, дзяржава прымушала рабіць гэта. Ня бачачы клопату аб абяздоленых з боку ўсіх партый і дэпутатаў, ён рашыў нікога не падтрымліваць, ні за кога не галасаваць. "Нікому няма справы да мяне, і мне ні да кога няма,"- кажа Валік. Меркаваньні, быццам беспрацоўе - спадарожнік рынкавых адносін, ён лічыць зьдзекам сытых над галоднымі, бо гэта кажуць людзі, якія шмат нарабавалі й працягваюць рабаваць, каб неяк апраўдацца. Ён думае, што хтосьці спэцыяльна стварае такія ўмовы, каб спыняліся вытворчасьці й скарачаліся работнікі, дазваляючы фірмам іншых краін прадаваць на Беларусі тавары, на якія там няма попыту.

Зразумела, меркаваньні Валіка спрэчныя. Але ж ён не вінаваты ў тым, што яго, як і ўсіх, працяглы час прымушалі верыць афіцыйнай прапагандзе і ў яго замацавалася іншае, чым існуе зараз, уяўленьне аб тым, што маральна, а што - не, што ён ніяк ня можа зразумець- вяртаньня назад няма. Нельга забываць: зьмены,якія адбываюцца на працягу апошніх гадоў, сталі сапраўднай трагэдыяй для многіх, і яны адчуваюць сябе нікому не патрэбнымі, бо шмат страцілі і ў матэрыяльным, і ў духоўным плане, таму часам вымушаны незаконна зарабляць на жыцьцё. На жаль, тыя, хто распачынаў рэформы, пра гэта загадзя не падумалі. Але паклапаціцца аб пакрыўджаных ім ня позна.

**Д.АЛЕГАЎ.**



Закінутыя, забытыя ўрадам і разнастайнымі чыноўнікамі мясцовага рангу жыхары пацярпеўшых раёнаў Гомельшчыны самастойна шукаюць паратунку. Асабліва спорыцца справа там, дзе ёсьць свае лідары.

І.С.Канапелька - дырэктар мэтадычнага цэнтру ў Хойніцкім раёне. Менавіта дзякуючы яе высілкам, народная песьня стала асноўным дапаможнікам у бядзе палескім гаротнікам. А нядаўна Ірына Сямёнаўна пачала ствараць сваеасаблівы відэалетапіс культурнага жыцьця раёна.

**НА ФОТАЗДЫМКУ: І.С.Канапелька падчас кароткага перапынку.**

**Фатаграфаваў І.БАРЫСАЎ.**

# Як у часы Манамаха

Добрая вестка прыйшла ў сядзібу Белавежскай пушчы з Парыжа. ЮНЭСКА прысудзіла калектыву Ганаровы Дыплом за беражлівыя адносіны да старэйшага й унікальнага помніка прыроды ў Эўропе, а таксама за навуковую работу, якая садзейнічае захаваньню й прымнажэньню рэдкіх, а падчас і рэліктавых багацьцяў запаведніка.

З даўніх часоў у глухіх лясах пушчы пасьвіліся статкамі зубры. Па некаторых зьвестках яшчэ ў XII стагоддзі тут на зуброў і тураў паляваў Уладзімір Манамах. Зрэшты "дасталося" белавежскім волатам і падчас айчынных войнаў 1812 й 1941-1945 гадоў, імпэрыялістычнай і грамадзянскай войнаў. У 1919 годзе ў Белавежскай пушчы быў забіты апошні зубр.

І калі б не намаганьні эўрапэйцаў-навукоўцаў, якія засьведчылі ў 1923 годзе, што на зямным шары захавалася нямногім больш за 50 белавежскіх зуброў (яны на той час знаходзіліся ў заапарках, паляўнічых гаспадарках заходнеэўрапэйскіх краін), то волатаў чакаў бы незайздросны лёс вынішчэньня. Было выращана закупіць трох асобін дзеля аднаўленьня папуляцыі ў прыродных умовах. З тых трох зуброў, якіх прывезьлі ў 1929 годзе, і пачалося новае жыцьцё для белавежскіх волатаў.

Нядаўна прынята рашэньне перасяліць частку зуброў у іншыя запаведнікі Беларусі. У выніку таго, што статак пастаянна павялічваецца, жывёлам ужо стала цесна ў прасторных лясах Белавежскай пушчы. На сёньняшні дзень іх налічваецца звыш трохсот. Перасяленьне часткі зуброў у Налібоцкую пушчу дазволіць захаваць і сфарміраваць новыя зоны іх пражываньня на тэрыторыі Беларусі.

**П.ЖЭБРАК.**

# Станцыя Красное

Станцыя й мястэчка Краснае знаходзяцца на 51-м кілямэтры ад г.Воршы, якраз на мяжы дзьвух краін, і сюды чатыры разы на суткі прыбываюць цягнікі з Беларусі й Смаленску.

Мне, як і іншым пасажырам з Смаленску, што накіроўваюцца ў Воршу, трэба было чакаць у Красное паўтары гадзіны цягніка, і я вырашыў прайсьціся па невялікаму рынку - ён мясьціўся побач.

Гандлявалі ў асноўным беларусы з Воршы, якія прыехалі сюды ранішнім цягнікам. На ўтоптаным сьнезе поўныя чорных буханак хлеба кайстры й заплечнікі. У адной жанчыны некалькі банак канцэнтраванага малака, запалкі.

Жыхары мястэчка й навакольных вёсак з ахвотай купляюць беларускі хлеб, кошт якога - 100 расейскіх рублёў за буханку. Бяруць, як найменей, па 5-10 буханаў (у Смаленску чорны хлеб каштуе 150 рублёў). Адчувалася, што і гандляры, і пакупнікі прыяжджаюць сюды кожную раніцу і ўжо праз 2-3 гадзіны увесь тавар раскуплены.

Бадай самым цікавым былі для мяне размовы паміж гэтымі людзьмі, сьведкам якіх я не па сваёй волі стаўся. Усе яны гавораць практычна на адным дыялекце беларускай мовы, хоць жывуць у розных краінах.

Адна з жанчын, паклаўшы на сьнег рукавіцы й прыціснуўшы іх ботам, каб не скралі, складвае ў мех пакупніка бухáны хлеба й лічыць:"Пяць, шэсьць, сем... дзесяць." Атрымаўшы тысячную купюру ад пакупніка, яна пытаецца: "Усё?" А той на мясцовай трасянцы адказвае:"У рашчоце."

Суседняя гандлярка толькі што прадала ўвесь прывезены хлеб і размаўляе са сваёй знаёмай (у першай у мястэчку жыве радня). Яна адкрывае сваю кайстру, дастае адтуль два не таварнага выгляду буханы хлеба й гаворыць знаёмай: "На, атдаш карове ілі матке".

Да іх падыходзіць трэцяя жанчына, відаць, іх знаёмая й зусім не па тэме ўклінваецца ў размову: "На тэй нядзеле езьдзіла ў Смаленск." Затым жанчына падрабязна пачынае пералічваць, што купіла й за колькі. Я ужо амаль ня стаў яе слухаць, аднак адна нечаканая фраза:"... І десять метров красного материала", прымусіла мяне зноў зьвярнуць на іх увагу. Адна з жанчын распытвала:"А сколько надо матеріала на гроб?" Атрымаўшы дакладны адказ, што дастаткова дзесяці мэтраў, сумна дадала: "Надо і мне сьездіть і купіть, пока дешёвый."

Назіраю, як мужчына падбягае да жанчыны, з якой раней гандляваў, хапае дзьве кайстры з хлебам і паказвае галавою у бок мястэчка: "Вон, едет!"

Да станцыі ў санях пад'яжджае мужчына ў кажуху. Разваліўшыся на сені і зьвесіўшы хвост, у санях ляжыць вялікі чорны сабака.

Каля саняў тут як тут ужо тры гандляры з хлебам. У адной з жанчын пакупнік узяў 15 буханаў. Нейкі мужчына прапаноўвае яму за кожны бохан па сто рублёў, аднак той адмаўляецца, маўляў, толькі па дзевяноста. А яшчэ дадае, што хутка прыйдзе цягнік з Воршы і ён зможа купіць па 75.

Дзьве прыйшоўшыя за танным хлебам на станцыю бабулькі гамоняць аб скупшчыку хлеба:

-Ён з-за Дняпра, заўсёды шмат бярэ. Там у яго па 168 рублёў, а ён прадае па 150 за бохан.

Нарэшце цягнік з Воршы падыходзіць і спыняецца. З вагонаў выходзяць аршанцы з поўнымі вялізнымі кайстрамі чорнага хлеба. Найбольш жвавыя мужчыны адразу з сваімі кайстрамі скачуць праз калеі й сьпяшаюцца да саней. Меней, як за хвіліну выстраілася чарга з дзевяці чалавек.

Мне становіцца зразумела, што для гэтых людзей гэта й ёсьць паўсядзённая праца, з якой яны жывуць. Праз некалькі гадзін цягнік будзе вяртацца ў Воршу і яны вернуцца дахаты, каб закупіць сьвежага хлеба й заўтра зноў прывезьці сюды ў Краснае.

Праз хвілін 30-40 увесь гандаль на станцыі скончаецца, гандляры сядзяць у цягніку й чакаюць, калі ён урэшце рушыць. У вагон уваходзіць мужчына й прапаноўвае абмен беларускіх "зайцоў" на расейскія рублі: 3,3 да 1. Таксама работа.

А вось і Шухаўцы, першая беларуская станцыя. Я ў Беларусі. Добры дзень, Бацькаўшчына!

**М.ІЛЬКЕВІЧ.**

# ДАТАНЦАВАЛІСЯ...

Кожны зараз зарабляе на жыцьцё, наколькі дазваляюць абставіны й сумленьне, таму можна лічыць сумленнымі ці несумленнымі людзьмі тых, хто займаецца перапродажам тавараў альбо абменам валюты. Але як можна ставіцца да тых, хто шляхам падману набівае кішэні? У апошні час зьявілася вельмі шмат людзей, якія гэтым займаюцца, нават славуты Астап Ібрагімавіч мог бы пазайздросьціць выняходлівасьці некаторых. Спрэчка становіцца адным з шляхоў атрыманьня грошай.

Двое дзяўчат студэнтак Гарадзенскага унівэрсітэта пажадалі весела правесьці час і пайшлі на дыскатэку ў Палац культуры хімікаў. Танцавалі, адпачывалі... І вось да іх падыйшлі двое прыстойнага выгляду хлапцоў і запрасілі на танец. Пазнаёміліся, паразмаўлялі. Раптам адзін з іх прапанаваў паспрачацца, што дзяўчаты, што б яны не казалі, не з 73 года нараджэньня. Тыя, як аматаркі вострых уражаньняў, вырашылі нядрэнна ўзбагаціцца і, напэўна, пасьмяяцца з недаверлівага юнака й пагадзіліся з умовамі спрэчкі - атрымаць 50 даляраў кожная, калі дакажуць, паказаўшы пашпарты, што нарадзіліся менавіта тады, калі казалі. А калі прайграюць, аддаюць такую ж суму.

Калі дзяўчаты паказалі пашпарты, то са зьдзіўленьнем пачулі, што яны прайгралі спрэчку. Новы знаёмы растлумачыў ім, што яны не з 73-га, а з 1973-га года нараджэньня, і запатрабавалі разьлічыцца. У адваротным выпадку, па іх словах, зьбіраліся знайсьці сьведкаў і падаць на іх у суд. Як ні ўпрошвалі, як ні плакалі дзяўчаты, яны нават прапанавалі расплаціцца "натураю", юнак быў няўмольны:"Нічога слухаць не жадаю. "Баксы!"" Сяброўкі слухалі й, каб не выпрабоўваць лёс, бо прагучала пагроза, што калі каму-небудзь раскажуць аб здарыўшымся, чакае помста, выраšылі разьлічыцца. Але толькі ў адной знайшлося 20 даляраў, на якія зьбіралася набыць туфлі, замест астатняй сумы, вымушана была аддаць новую джынсавую куртку, другой давялося разьвітацца з залатым ланцужком.

Можна толькі меркаваць, колькі пасьпее шляхам падману зарабіць махляр і яму падобныя, пакуль не трапіць у поле зроку міліцыі. І хочацца яшчэ раз сказаць:"Людзі, будзьце пільнымі!"

**А.ВОЛАТ.**







# Дакумэнт з крымінальнай справы

**У крымінальнай справе № П-9470 па абвінавачваньню Максіма Іванавіча Гарэцкага захоўваецца напісаная 8 лістапада 1936 года пісьменьнікам асабіста на адным аркушыку вучнёўскага сшытка аўтабіяграфія. Вытрымкі з гэтага дакумэнта былі апублікаваны мною ў артыкуле "Максім Гарэцкі. Да 100-годдзя з дня нараджэньня." ("Край Смоленский" №№9-10 за 1993г.) Акрамя гэтага, асобныя вытрымкі з аўтабіяграфіі былі выкарыстаныя акадэмікам Гарэцкім Р.Г. у яго артыкуле "Расстрэл Максіма Гарэцкага".("ЛіМ", 16 кастрычніка 1992 г.), а таксама зьмешчаны ў кнізе "Гарэцкія чытаньні".**

**Падчас вывучэньня крымінальнай справы № П-9470 я зрабіў ксэракопію аўтабіяграфіі. Дакумэнт друкуецца на мове арыгінала.**

**М.УЛЬКЕВІЧ.**

## АВТОБИОГРАФИЯ

Родился я 6 (19) февраля 1893 г. в деревне Малой Батьковке, Шамовской волости, Мстиславского уезда, Могилевской губернии. Отец мой и теперь живет там, состоит членом колхоза (им.Буденного).

Мы жили вместе с дядей, отец зарабатывал на стороне, у помещиков - поэтому я и смог учиться в Ольшанской второклассной учительской школе (б.Оршанского уезда), где учитель Х.И.Чоловский привил мне любовь к литературе.

В 1909 году, подготовившись (почти бесплатно) у горецкого репетитора А.И.Креера, поступил я в Горецкое землемерно-агрономическое училище (при конкурсе в 400 заявлений на 25 мест).

Здесь, по курсу русского языка, мы основательно изучали психологию, логику, русскую и западноевропейскую литературу (преподавал Я.Н.Ктитарев, автор ряда работ по русской литературе).

Дальнейшие этапы моей жизни видны из анкеты и трудового списка. Отмечу только, что лекции я слушал в археологическом институте в Смоленске (по этнографии и фольклору - В.Н.Добровольского, по истории искусств - проф. Троицкого, и по другим дисциплинам, по своему выбору), в Виленском университете (курс белорусского языка, читанный проф.Массониусом) и в Белгосуниверситете (по диамату - проф. С.Я.Вольфсона, по педагогике - проф. Василейского, по литературе - проф. И.И.Замотина, проф. Е.И.Боричевского и др.)

"Истор.белор.литер." писал, руководствуясь указаниями и помощью академ. Е.Ф.Карского и Б.А.Тарашкевича. В Белорусск. академии наук работал с академ. Е.И.Боричевским и др.

В Вильну (в 1919 г.) я приехал в составе редакции "Звязды", по приглашению В.Г.Кнорина. Остался там не по своему желанию, все время находился там в контакте с подпольн.коммунист.организацией. По возвращении в Минск был избран кандидатом в члены Минского горсовета (1923 г.).

Из моих бывших учеников по Коммун.универс.Белоруссии я ввел в литературу Платона Головача (его роман "Сполох на загонах" переведен на русский язык).

Кроме работ, отмеченных в "Литер.энциклопед.", назову еще такие свои работы:

1. "Народныя песьні", издан.Бел.акад.наук.
2. "Маладняк за 5 гадоў" (обзор творчества молодых белорусск. советск.писат., отдельн.издан.).
3. Хрестоматия для школ по белор.литер.
4. Русско-белор. и белор.-русск.словари.
5. Инструкция по собиранию устного нар.творчества (составлена совместно с академ. Замотин.)
6. "Белорусская литература", статья в журнале "Октябрь", 1928г., N 4 (под редакцией А.С.Серафимовича).

Прежде чем просить в Запоблоно направление на работу, я обратился в НКВД (в Смоленске); препятствий не было.

**М.ГОРЕЦКИЙ.**
**8/XI 1936 г.**

# ГАРАЧАЕ ЛЕТА 72-га

Наша газэта неаднаразова пісала пра зарганізаваныя выступленьні моладзі супраць уладаў камуністых у Горадні. Сыстэма жорстка расправілася з вольнадумцамі. Пра лёс удзельніка тых падзей віленскага беларуса Станіслава Вайцаховіча карэспандэнту "Пагоні" распавяла сястра Станіслава Яўгенія ВАЙЦАХОВІЧ.

Адразу пасьля выступу ў Горадні ў Станіслава распачаліся непрыемнасьці ў інстытуце. Дзесьці праз паўгады брата і ўвогуле адлічылі з факультэту за непасьпяховасьць. Стась моцна сумаваў, перажываў, але ні разу ня скардзіўся, што ён зрабіў памылку ў жыцьці, далучыўшыся да альтэрнатыўнага маладзёжнага руху. Наадварот, ён нярэдка казаў, што каб не дэсантнікі, то ў Горадні хоць на адзін дзень запанавала б сапраўдная воля.

Пра свой удзел у гэтым своеасаблівым акце пратэсту Станіслаў апавядаў так:"Я ішоў дзесьці ў сярэдзіне калёны, калі на пляцы Савецкім, ці як яго там завуць, нас спрабавалі спыніць камсамольцы-актывісты, мы лёгка зламалі іх супраціўленьне. Потым была дапамога камсамольцам у выглядзе дэсантнікаў.

Нават пасьля таго, як нас адпусьцілі з кашар, па гораду езьдзілі пераапранутыя міліцыянты й хапалі ўсіх даўгакосых. Выстрыгалі на галаве крыж і адпускалі. Гэта быў сапраўдны зьдзек над правамі асобы".

Жыцьцё у Вільні побач з бацькамі Станіславу было добра. Калі ж перад алімпійскімі гульнямі 1980 года ў наш горад дэпартавалі дзесьці за 20 тысячаў маскоўскіх бяздомных, мой брат гэтага не ўспрыняў. Да таго ж хутка ў Польшчы пачаліся выступы Салідарнасьці. Станіславу загарэлася паехаць туды. Як ён здабыў да Польшчы запрашэньне, не магу сказаць. У лістападзе 1980 года ён быў у Гданьску. За выступы ў падтрымку Салідарнасьці тагачасныя польскія ўлады арыштавалі яго й перадалі да амбасады СССР.

Гады чатыры пра брата наша сям'я нічога ня чула. І толькі напрыканцы 1985 года да Вільні дайшоў ліст ад Станіслава, што ён жывы й працуе на вольным пасяленьні пасьля турмы на газаразадовішчах Саматлора. Разам з бацькам я езьдзіла да яго ў Заходнюю Сібір. Станіслаў сказаў, што калі скончыцца тэрмін "пасяллухі", ён будзе старацца пакінуць СССР. Больш з братам ні я, ні бацькі не сустракаліся. Летась атрымалі ліст з Кітаю, ў якім Станіслаў паведамляе, што ў яго ўсё добра й калі ёсьць жаданьне ў нас ад'ехаць туды, ён здольны праз сяброў даслаць нам усім запрашэньне.

Вось фактычна і ўсё, што распавяла мне сястра Станіслава Вайцаховіча. Але, каб нашы чытачы мелі самую поўную й аб'ектыўную інфармацыю пра падзеі лета 1972 года ў Горадні, газэта й надалей будзе весьці пошук удзельнікаў тых падзей.

**Г.АСТРОЎСКІ.**

# ВЕРБНЫ ТЫДЗЕНЬ

Перад Вялікаднём - Вербны (Страсны) тыдзень. Пачынаецца ён 24 красавіка Вербнай нядзеляй (Вербніцай, Вярбой). У гэты дзень Ісус Хрыстос уехаў у Іерусалім і людзі, што сустракалі яго, клалі яму пад ногі пальмавыя галінкі. У пэўных краінах нават называюць гэты дзень Пальмавай Нядзеляй. У памяць аб гэтай падзеі вернікі й пачалі асьвятляць вярбу, бо згодна язычніцкаму культу дрэвы, якія раней за іншыя пачынаюць распускацца й адрозьніваюцца ўстойлівасьцю да неспрыяльных умоваў, надзяляліся магічнай сілаю. Такімі дрэвамі на Беларусі, у Польшчы й Летуве зьяўляюцца таксама лаза, бяроза, ракіта і ядловец. Таму вербы робяцца з галінак і гэтых дрэваў.

У Вербную нядзелю несьлі й асьвячалі іх у рэлігійных храмах. Самая вялікая верба была ў гаспадыні дома. Вербы дзяцей - па дзьвеtры галінкі. Вядомы звычай, калі ў Вербную нядзлю сяклі сябе й іншых асьвечанай вярбой, прыгаворваючы:"Верба б'е, не я б'ю, за тыдзень Вялікдзень". Верылі, што асьвечаныя галінкі ахоўваюць ад хваробаў, таму білі хворых, кажучы:"Не я б'ю, верба б'е. Будзь здаровы, як вада. Будзь багаты, як зямля!"Прашаптаўшы замову:"Верба сьвята - нова лята, верба пасьвіці ў поле гнала", - вярбой гналі першы раз карову на пашу.

Прынесеную з храма асьвечаную вярбу засоўвалі за абразы й захоўвалі на працягу года, пакуль на наступны не прыносілі новую. Верылі ў абарончую моц яе, таму галінкамі акурвалі пакоі, яйкі, якія падкладалі пад курыцу, каб ястраб не напаў на куранят.

У Чысты панядзелак і аўторак бялілі й мылі хаты, а ў сераду й чацьвер (Дравесны чацьвер) - усё драўлянае. У чацьвер на Вербным тыдні таксама хадзілі ў лазьню, на "бягучую ваду", каб не было на целе хвароб, клапоў у хаце. У доме ўсё было да гэтага часу памыта, бо, як лічаць на Сьвіслаччыне, у гэты дзень нельга мыць - "зальеш Хрысту вочы". Варылі вячэру, у некаторых раёнах ня елі - "жыльнікавалі" да Вялікадня. Аралі й сеялі:"Чысты чацьвер - ячмень засяваць". Прыкмячалі: як на Чысты чацьвер добрае надвор'е, то й Ушэсьце будзе такое ж, калі ж вецер, то да самага Ушэсьця будзе.

Кажуць, нібы ў Чысты чацьвер сходзіць на зямлю Ісус Хрыстос, таму пяклі асобны хлеб.

У Чырвоную (Вялікую) пятніцу рыхтаваліся да сьвята. Пасьцілі шчырым постам.

У Чырвоную суботу пяклі пірагі, фарбавалі яйкі ў чырвоны колер, але калі сёлета памёр хто-небудзь з сваякоў, то ў чорны ці які іншы. Таксама хадзілі на магілкі прыбіраць, палілі вогнішчы. Усю ноч у хатах гарэла сьвятло.

## КАМУ – СЬВЯТА, КАМУ – СТРАТА

Не давялося разгавецца на Вялікдзень многім гарадзенскім каталікам з прыватнага жыльлёвага сэктару Горадні. Пакуль яны ў касьцёлах слухалі сьвятую імшу, злодзеі шчыравалі па іх клецях і лядоўнях, забіраючы прысмакі.

Так, у гарадзенца Ц. зламысьнікі скралі вэндліну й фарбаваныя яйкі, а ў сям'і Р. злодзеі паласаваліся сьвежымі каўбасамі з хрэнам і гарэлкай.

Як ня дзіўна, але ніхто з пацярпелых не паскардзіўся да кампэтэнтных ворганаў.



Драўляная цэркаўка ў Друскеніках.
Фатаграфавала А. БІБІКАВА.

## ЦІ АДРОДЗІМ СТРАЧАНАЕ?

Калі іду прыватным сэктарам Горадні, то воку не стае моцы ахапіць усю разнастайнасьць архітэктурнай забудовы. Кожны тут будаваў на свой густ і, канечне, па сродках.

За часы гаспадараньня на нашай зямлі Савецкай улады добрыя традыцыі, калі кожны сам сабе будаваў жытло, амаль што страчаныя. Пераважная большасьць жадае атрымаць кватэру ад дзяржавы. Галоўнае - самому не працаваць, не натужыцца. Таму й ня дзіва, што чарга на атрыманьне жытла ад дзяржавы ў Горадні налічвае дзесяткі тысяч ахвочых.

Часам, калі пытаю тых, хто па дзесяць, а то й па пятнаццаць год чакае на атрыманьне "дармовай" дзьвух- ці трохпакаёўкі, лаўлю сябе на думцы, што людзі развучыліся быць індывідуалістамі, арыгінальнымі, ім больш адпавядае шэрае камуна-савецкае жыцьцё.

Але дзякуй Богу, тыя часы, здаецца, адыходзяць, аб чым, як сьведчаньне, зьяўленьне наўкол Горадні новых адмысловых сеілішчаў па індывідуальнаму, а не тыповаму праэкту.

**Г.ВАСІЛЕВІЧ.**

# «БЕЛЫЯ ПЛЯМЫ Ў ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ»

– "круглы стол" пад такой назвай быў праведзены ў Гарадзенскай вабласной бібліятэцы імя Я.Карскага. Пад час яго выкладчыкі кафэдры беларускай гісторыі ГрДУ выступілі перад настаўнікамі гісторыі школ горада й бібліятэкарамі. У пачатку сустрэчы загадчык кафэдры І.П.Крэнь акрэсьліў задачы, якія зараз стаяць перад гісторыкамі. Ён, у прыватнасьці, адзначыў, што неабходна дасканала вывучаць раздзелы гісторыі Беларусі, якім раней не надавалася вялікай увагі,- такім як гісторыя палітыкі й культуры; гісторыя нашай краіны павінна разглядацца ў кантэксьце сусьветнай, Эўрапэйскай, славянскай; неабходна ўлічваць нацыянальную аснову гісторыі, памятаючы, што беларусы - спадкаемцы ВКЛ, Рэчы Паспалітай і, нават, Расейскай імпэрыі; справы беларускай дыяспары павінны знайсьці сваё месца ў гісторыі; неабходна правесьці дэідэалагізацыю й дэпартызацыю яе, у той жа час "адны міфы не павінны быць заменены новымі"; максімум увагі трэба зьвярнуць на дасавецкі пэрыяд; пераацаніць савецкую гісторыю, захоўваючы ўсё каштоўнае, што было зроблена навукоўцамі; трэба адмяжаваць, абараніць гісторыю Беларусі ад экстрэмістаў суседніх краін і знайсьці паразуменьне ў іх. Ён падкрэсьліў таксама, што "у аснове стварэньня гісторыі павінна быць толькі навука, а навукоўцы павінны стаяць на пазыцыях аб'ектыўнай праўды."

Потым настаўнікам было прапанавана задаваць пытаньні, бо гісторыкі па-рознаму трактуюць падзеі й дзейнасьць тых ці іншых асобаў. Больш за ўсё іх цікавіла ўніяцтва на Беларусі, дзейнасьць Арміі Краёвай, беларускіх дзеячоў у гады ВАВ.

**А.ДУК.**

ВАЙНА І ЛЮДЗІ

# ТАВАРЫШ КАЛАШНІКАЎ



**Уральскі горад Іжаўск - цэнтр расейскай збройнай пра- мысловасьці. Да нядаўняга часу закрыты горад. Праўда, тут складана знайсьці вытворчасьці зброі, бо танкі робяць на сноправязальным заводзе, ракеты - на аўтазаводзе, гарматы й аўтаматы - на заводзе трыкатажных машын. На адным з такіх заводаў працуе 74-гадовы пэнсіянэр Міхал Цімафеевіч Калаш- нікаў. Той самы, што вынайшоў знакаміты аднайменны аўтамат. Міхал Цімафеевіч - доктар тэхнічных навук, але ні ў водней вышэйшай школе не вучыўся. У новай Савецкай энцыклапэдыі няма яго фотаздымку. Глыбокая сакрэтнасьць апавяла яго лёс. І усёткі польскаму журналісту Яцаку Хуга-Бадэру пашчасьціла сустрэцца з славутым канструктарам зброі. Газэта "Пагоня" друкуе ў перакладзе й са скарачэньнямі аповяд звышсакрэ- чанага расейскага канструктара.**

- Калі мяне пытаюць, які аўтамат самы найлепшы, заўжды адказваю так: спытайце ў любой маці, чыё дзіця лепшае. Ад- каз адзін - канешне, яе. Часам калі пытаюць, як будзе выг- лядаць аўтамат маёй канструкцыі XXI стагоддзя, адказваю, што ня ведаю. Па доказах нашых канкурэнтаў-амэрыканцаў, да 2025 года лепшым будзе "калашнікаў". Але я не стаю на месцы, вяду сталы пошук рашэньняў недасканаласьцяў папярэд- ніх мадэляў. Вось калі ўсе іх вырашу - гэта будзе ма- дэль-ідэал, падарунак для воіна-прафэсыянала. Самае галоўнае для канструктара - вынайсьці прастату інжынэрных рашэньняў ма- дэлі. Складаныя канструкцыі праэктаваць ня цяжка.

У 1974 годзе на паток пайшла мадэль "калашнікава" пад патрон калібру 5,45. Гэта не было знаходкай, бо "янкі" ва Ўетнаме выкарыстоўвалі такі ж самы. Праўда, у Саюзе тады ўсчаўся сапраўдны вэрхал, што гэта мадэль "калашнікава" ан- тыгуманная. Вось у такіх умовах - то гэрой, то дэман - мне й давodзіцца працаваць.

Увогуле на свой лёс ня крыўджуся, бо мяне ніколі не купалі ў промнях славы, таксама, як і ў ямах з брудам. Шлях мой быў складаны. Уявіце сабе: абвешчаны конкурс на ўні- вэрсальны аўтамат. Да конкурсу далучаюцца такія канструкта- ры, як генэралы Дзегцяроў, Сіманаў, вядомы канструктар Шпагін. І тут у іх пад нагамі блукае нейкі сэржант, які без дапа- можнікаў сканструяваў аўтаматычную зброю. Таму сталінская прэмія была самым высокім прызнаньнем майго вынаходніцтва. Праўда, цяжка быць самастойным у грамадзтве, дзе партыя мае вядучую ролю ва ўсіх галінах прамысловасьці, духоўнага вы- хаваньня й многага іншага. Адчуваць гэты прэс, а тым болей стварaць высокадакладныя канструкцыі, вельмі цяжка. Партыя ўмела сачыць, радзіць, браць справаздачы. Многія з маіх су- часьнікаў з-за ўпартасьці трапілялі да турмаў. Але іх і там знаходзіла партыя ў час, калі ў яе самой было шмат выпраба- ваньняў. Скажу шчыра - КПСС хоць і была той арганізацыяй, якой мы верылі, але яна, як крывасмок, спажывала з нашага таленту падчас экстраардынарных сытуацый. На нас жа бўу на- вешаны абет маўчаньня - сапраўднае табу.

Упершыню я трапіў у замежжа ў 1991 годзе. Гэта былі Злучаныя Штаты Амэрыкі. Там у новым сьвеце пазнаёміўся з вынаходнікам вінтоўкі М-16 Стонэрам. Ён мяне запрасіў. Многія думаюць, што я багаты чалавек. Так, я міліянэр, але ўсе мае мільёны ляжаць на рахунках былога Варшаўскага Дагавору. Калі б мне далі хоць па рублю за адзін "калашнікаў", то нескладана падлічыць, што гэта было б 55 мільёнаў рублёў. У Амэрыцы я быў жабраком, не было на што нават купіць сабе марожанае. Кіраўніцтва сказала, што ў мяне прыватная паездка й пагэтаму ні граша для гэтай справы не дала. Добра, што Стонэр дапамог. На пэнсію разьлічваць таксама складана. Апошняя была каля 40 тысячаў рублёў. Але я ня скарджуся, я дзіця сваёй Радзімы й пагэтаму што ўсім, тое й мне. Я не патрабую для сябе нейкіх адметных умоў існаваньня. Адзінае, за што ў мяне баліць сэрца, - гэта за тое, што мая зброя робіцца аргумэнтам у палітычных дыскусіях.

Іжаўск даўно атрымаў славу мафіёзнага гораду. Тут сва- бодна тлушчуюць дзялкі ад гандлю зброяй. Яны, як карабейні- кі-таўстасумы, сноўдаюць па заводах, скупляюць зброю. Толь- кі сёньня, ідучы на абед, бачыў некалькі асобаў каўказкай нацыянальнасьці. Яны, відома ж, прыехалі набыць тут ня сно- павязальныя машыны, а нешта іншае. Мне да болю непрыемна глядзець, як людзі забіваюць адзін аднаго маёй зброяй. Я яе канструяваў для высакародных мэтаў - абароны Радзімы. Зараз ведаю, што ва ўсім вінаваты палітыкі.

...Калашнікаў жыве адзін у выдатнай трохпакаёўцы плошчай 70 кв. мэтраў. Жонка яго памерла 15 год таму. Некалькі год назад загінула ў аўтавыпадку любімая дачка Натальля. У яго ёсьць яшчэ дзьве дачкі й сын. Яго працоўны габінэт нагадвае музэй марксізму-ленінізму - бюсты Леніна, Дзяржынскага, мініяцюрныя самалёты, караблі, субмарыны. Міхал Цімафеевіч упэўнены, што ў Расеі камуністы ня зьнiклі й не адляцелі на Марс. Яны ў Расеі паўсюдна. Знакаміты канструктар ідзе ў свой габінэт, уключае свой тэлевізар, а там рухаюцца армянскія хлопцы з зьвязанымі за галавой рукамі. За калёнай палонных крочаць канваіры-азэрбайджанцы з "калашнікавымі" ў руках.

Гонар звышсакрэтнага канструктара М.Ц.Калашнікава АК-47 увесь сьвет памінае як зброю тэрарызму.

**По матэрыялах польскага часопіса "Gazeta".**

## СПАХАПІЛІСЯ... ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ

У Першамайскі РАУС Бабруйска паступіла паведамленне камандаваньня вайсковай часьці 21561, якая дыслацыруецца ў Кіселевічах (вайсковы гарадок у Бабруйскім раёне), аб выкраданьні гранат Ф-1. Дзьве скрыні, у якіх было сорак гранат з запаламі, былі скрадзены пры пагрузцы боеприпасаў у вагоны на чыгуначнай станцыі Бабруйск. Камандаваньне часьці ніяк не растлумачыла, чаму з моманту крадзяжу да зьвяртаньня ў праваахоўныя ворганы прайшоў цэлы тыдзень.

## НЕ КУПЛЯЮЦЬ ТАМУ, ШТО НЕ ПРАДАЮЦЦА

Як стала вядома з крыніц, блізкіх да вайсковай контрразведкі, цэнтральны апарат КДБ прапанаваў яе супрацоўнікам набыць дзяржаўныя кватэры. Першы ўзнос за кватэру павінен быў складсці ў сярэднім 28 мільёнаў рублёў. Па зьвестках, якія ёсьць, прапанову не прыняў ніводны контрразведчык. Невыключна, што гэтая акцыя была прэдпрынята КДБ з мэтай выяўленьня супрацоўнікаў, якія маюць нелегальныя даходы ў валюце.

**МАС-МЕДЫА ЦЭНТР.**

## АК ДАДУЦЬ АЦЭНКУ НАВУКОЎЦЫ

Дзейнасьць Арміі Краёвай у час другой сусьветнай вайны на Беларусі гісторыкамі-навукоўцамі ды й простымі людзьмі ацэньваецца неадназначна, бо яе атрады ваявалі як супраць нямецкіх акупацыйных войскаў, так і супраць беларускіх партызан. Адны лічаць "акоўцаў" гэроямі й прапануюць прыраўняць іх да вэтэранаў Вялікай Айчыннай вайны, другія - здраднікамі й злачынцамі. Аб'ектыўна ацаніць дзейнасьць АК прызвана канфэрэнцыя, якая будзе праходзіць у Гарадзенскім унівэрсітэце па ініцыятыве кафэдры беларускай гісторыі гэтай навучальнай установы 29-30 верасьня бягучага года. Мяркуецца, што ў ёй прымуць удзел па 20 гісторыкаў з Польшчы й Беларусі. Да ўдзелу ў канфэрэнцыі запрашаюцца ўсе зацікаўленыя асобы.

**А.ДУК.**

# Новыя рускія ў камуфляжы

Пятро Малышаў у войску не служыў. Але затое прайшоў баявое хрышчэньне ў Прыднястроўі. Зараз яму 26 год. У роднай Маскве засталіся бацькі. Жонка, пасьля таго, як ён дабраахвотнікам адʼехаў ваяваць у Боснію супраць мясцовых мусульман, кінула яго. Пётр адчувае самоту, прагу вярнуцца да "сваіх" у Боснію. Там, па яго- ных словах, сапраўдныя хлопцы, якія могуць без судрыганьня закідаць гранатамі мусульманскі дом з кабетамі і дзецьмі.

Пятро таксама вылучыўся, і за яго "подзьвігі" сэрбскае кіраўніцтва ў знак пашаны ўручыла наёмніку пашпарт грамадзяніна Сэрбіі.

Летась Малышаў падчас адпачынку быў у шэрагах баркашоўцаў, што абаранялі Белы дом. Менавіта там яго і сустрэў карэспандэнт адной немаскоўскай газэты.

"Тое, што заўжды перамагае мацнейшы, я зразумеў змалку, - распавядае субяседнік. - Памятаю, як з першай стыпендыі мы з сябрамі купілі пляшку віна й выпілі, пасьля нам захацелася пакатацца на ровэры. Але хлапчукі, што каталіся побач, не пажадалі без барацьбы аддаць тэхніку. Мяне моцна выцялі насосам па сьпіне. Узлаваўшыся, я пабег да хаты, узяў прэнт і вярнуўся да абідчыкаў. З ходу вывеў са строю самага дужага, а астатнім загадаў легчы на зямлю. Ляжачых біў доўга, калі насыціўся, то ўбачыў, што ніхто з іх не спрабуе ўстаць з зямлі." Быў суд, была судова-псыхіятрычная экспэртыза, былі ўсе 12 ахвяр пабоішча. Пятро атрымаў тры гады. Праз два быў на волі. У 1988 годзе скончыў ПТВ. Працаваў інструктарам конкай язды. Праз год узяў шлюб з дачкою журналіста-міжнародніка А.Батагава. Пры дапамозе цесьця далучыўся да нацыяналістычных груповак. Потым было Прыднястроўе.

У Цiраспалі Пятра спачатку запісалі ў атрад камуністаў. Праз месяц ён сам папрасіўся на перадавую. Доўгі час ахоўваў мост цераз Днестр у Бэндэрах. Затым у складзе спэцгуртаваньня знаходзіўся ў Дубасарах. Яго двойчы кантузіла выбухамі мін. Але ён не здаўся, ня кінуў аўтамат, хоць ніколі не лічыў сябе вайскоўцам.

"Зрабіць сябе прафэсіяналам не складана, - згадвае Пятро. - Праўда, каб выжыць на вайне, ня трэба адразу лезьці ў самае пекла. Калі першы раз пайшоў на справу, зразумеў гэта добра. Бралі "языка", й спэцгрупа патаемна перапраўлялася на бераг румын (так наёмнікі з Расеі называлі тых, хто быў на супрацьлеглым беразе). Сонца ўжо схавалася, мы паўзлі ўздоўж невысокай агароджы, за якой гарэла вогнішча, а наўкол сядзелі паліцыянты малдаване.

**(Заканчэньне на 8-й стар.)**

# «ТАК ТРЫМАЦЬ!..»

Нарэшце беларускія вайскоўцы й ветэраны ўзброеных сіл РБ дачакаліся сьвята - Дзень абаронцаў Айчыны і Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь. Дзень гэты сьвяткуецца 23 лютага.

Новы сьпікэр Вярхоўнага Савета РБ генэрал міліцыі Мечыслаў Грыб рашуча адхіліў прапанову прызначыць фэст на сьвяты 3 ліпеня, калі адбылося вызваленьне нашае сталіцы ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Ня ведаем аргумэнтаў, якія канчаткова вырашылі прыняцьце дэцызы. Можна меркаваць, што гэта ня тое "23 лютага", якое было штучна прызначана сталінізмам для выхаваньня воінскіх традыцый, бо гісторыкамі неадназова абвергнуты ўсе магчымыя ваенныя падзеі ў лютым 1918 года, якія маглі быць кваліфікаваны як сур'ёзнае супраціўленьне кайзэраўскім войскам. Больш таго, менавіта ў гэты дзень ленінскі ўрад атрымаў тэкст мэмарандума ад вярхоўнага камандаваньня нямецкіх войскаў аб прыняцьці жорсткіх умоў падрыхтаванага Берасьцейскага пагадненьня. Апошнія, як добра вядома, прадугледжвалі мір Расеі коштам здачы ў палон нямецкім акупантам Беларусі, значнай часткі Прыбалтыкі і Украіны. Не, гэты дзень для Беларусі - дзень цяжкай здрады "старэйшага" брата, дзень чарговай дэманстрацыі першынства імпэрскіх і вузканацыянальных інтарэсаў Расеі.

Дык чаму ж сьвята прызначана "хуткім тэмпам" на дзень 23 лютага? Неверагодна, што Прэзыдыум ВС Беларусі ня ведае ўзгаданыя факты, хоць ён апошнім часам і дэманструе сваё няведаньне гісторыі нашай Радзімы. Здагадка прыходзіць менавіта з гістарычных фактаў, а яны, як кажуць, смаляць у вока: 23 лютага 1944 года, гэта значыць 50 год назад, быў падпісаны загад аб стварэньні Беларускай краёвай абароны. Таму, відаць, і дзень сьвяточны названы як... Дзень абаронцаў Айчыны. Застаецца толькі падзякаваць генэралу Грыбу за сапраўднае нацыянальнае сьвята. Чыста па-вайсковаму можна шаноўнаму генэралу пажадаць:"Так трымаць!"

**Міхась ЯВАР.**

ДАСЬЛЕДАВАНЬНІ

В.ПАНУЦЭВІЧ

# ГОРАДЗЕНШЧЫНА Ў НАЦЫЯНАЛЬНЫМ РУХУ Ў 1918 - 1919 ГАДОХ

## 15. Канцэнтрацыйны лягер "Домбія"

У другой палове ліпеня 1919 г. усе турмы ў Горадзеншчыне настолькі былі перапоўненыя беларусамі, што паўстала вострая патрэба іх ачысткі і перавозу арыштаваных у канцэнтрацыйныя лягеры ў розных мясцовасьцях Польшчы, з якіх два - у Кракаве "Домбія" і ў Беластоку "Ст.Разьдзельная" - найбольш зьмяшчалі беларусаў. Ачыстка турмаў і перавод зьняволеных у лягеры палонных выклікаліся таксама падрыхтоўкай палякаў да ўсходняй афэнзывы з мэтай захопу далейшых беларускіх земляў.

Наколькі жудаснае было мучэньне ў гэтым лягеры сьмерці, даведаемся ад саміх зьняволеных. Так, Антонаў піша:

"Яшчэ ў дарозе ў Кракаў наш канвойны вахмістр Вэбэр заявіў мне, што ўсе маі дакумэнты "забытыя" ім у Варшаве ў знаёмага. Гэта няпраўда, бо пасьля Варшавы я бачыў, як у вагоне ён трымаў іх і пераглядаў.

Відавочна, пазнаёміўшыся з дакумэнтамі, што яны высьвятляюць маю асобу й дзейнасьць, ён уважаў выгадным даставіць мяне ў Кракаўскі лягер без дакумэнтаў, як "бальшавіка".

Так я трапіў у барак N13 як "бальшавік". "Бальшавікі", у бальшыні такія ж, як і я, з прыхільнасьцю сустрэлі мяне: пасунуліся на агульных голых нарах, далі месца легчы, накармілі бурдой-зупай, і я спакойна заснуў.

У бараку цесна, брудна, вашыва. Тут усе мучанікі ахвяраваныя палякамі на загубу.

Праз тыдзень мне ўдалося перайсьці ў "ахвіцэрскі" барак N14.

У ім на трохпавярховых нарах разьмяшчаліся ахвіцэры ў чынах ад палкоўнікаў да прапаршчыкаў, вуніяцкія сьвятары, вайсковыя й цывільныя ўрадоўцы, два міравыя судзьдзі, настаўнікі і інш.

Усе тры паверхі нараў былі поўныя, некалькі ляжала нават у куце на зямлі. І тут, як і ў "бальшавіцкім" бараку, было брудна, вашыва й ноччу холадна, але былі саламяныя ці стружкамі напханыя сяньнікі.

Жыхары верхніх паверхаў брудзілі сваімі сяньнікамі й пралівалі ваду на галавы жыхароў ніжніх паверхаў. І гэта зьяўлялася часта ў выніку ўзаемнай сваркі.

Перавагай нашага бараку перад "бальшавіцкім" было тое, што мы ў азначаныя гадзіны маглі свабодна хадзіць па ўсім лягеры й спаць на сяньніках. Бальшыня хадзіла ў старой, падранай вопратцы, выданай палякамі заміж зьнятай новай. Сумна апусьціўшы галовы, ледзь цягнучы ногі, галодныя вязьні хадзілі доўгімі гадзінамі каля сваіх баракаў, а зьняможаныя ляжалі на сваіх нарах, наракаючы на свой лёс і праклінаючы палякаў. Усе былі вельмі змучаныя ад голаду й іншых недастаткаў. Але дух бадзёрасьці не пакідаў нас. Падтрымлівала нас часта песьня Бацькаўшчыны. Штодзённа перад захадам сонца складаўся імправізаваны ўкраінска-беларуска-расейскі хор з нас. З сотняй змучаных горам няволі надарваных грудзей нясьліся стройным акордам, грымячым і плачучым, да неба й Бацькаўшчыны родныя песьні.

Пад гэтыя зыкі мы разыходзіліся на ноч па бараках і засыналі з мокрымі часта вачамі ад выкліканых пачуцьцяў.

Вось што давалася звычайна ў ежу ў жнівені месяцы: на сьнеданьне - "кававада" і 6 галет у два пальцы вялічынёй кожная, на абед - суп з гнілых кансэрваў гародніны з мільярдам чэрвяў ці вадзяністы суп з гнілой бульбай, на вячэру - поліўка з вады й шчыпкай мукі. Закрасаю ў супы найчасьцей былі бydлячыя й конскія кішкі, а іншы раз мініятурныя кавалачкі сала.

З палавіны верасьня сталі даваць 2 кг хлеба на 13 чалавек. Тыя, што мелі грошы, мелі крыху лепшы стол, але ўсё ж недастатковы для харчаваньня.

10-12 тысячаў інтэрнаваных і ваеннапалонных лягеру выдавалі штодзённа на дзесяткі тысячаў марак на куплю хлеба ў кантыне, каб ратавацца ад сьмерці. Тыя, хто ня меў грошай, прадаваў рэшткі сваёй вопраткі на хлеб. Прадаў на хлеб і я палЪто, порткі, боты.

Людзі гуртаваліся па нацыянальнасьці: украінцы, галічане, беларусы, жамойцы, жыды, расейцы...

Добрае ў нашым катаржным жыцьці было тое, што мы мелі магчымасьць вымены думак на цікавыя нас пытаньні адносна будаўніцтва дзяржаўнага жыцьця нацыяў. Лягер для нас аказаўся добрай школай.

Лягер наш быў перапоўнены ваеннапалоннымі й інтэрнаванымі: мужчыны, жанчыны, дзеці, нават глуханямыя й сьляпыя й тыя арыштоўваліся дзеля "супакою" Польшчы, саджаліся сюды за драты...

Ахвіцэры й ураднікі ўсіх рангаў, людзі ўсіх прафэсіяў забраныя былі сюды за драты: прафэсары, настаўнікі (іх было болей за 500 чал.), інжынеры, адвакаты, духоўнікі, пракуроры, міравыя суддзі, адміністрацыйныя працаўнікі, аграномы й мора беларускага сялянства. Адных беларускіх вучыцеляў было тут да 400 чалавек."

На месца памерлых з голаду й эпідэміяў прывозіліся новыя ахвяры. На Вялікдзень 1920 г., калі палякі былі ўжо панамі ў Цэнтральнай Беларусі з Менскам, ачышчаліся зноў турмы для новых арыштаваных. Вось як апісвае зьняволеньне ў лягеры "Домбія" раньней вясной пар.пар. Казячы й Мышка:

"З прыемнасьцяй пасьля доўгіх мукаў транспарту разлягліся мы - "горадзенскія бальшавікі" - на нарах. Нас было з Горадзеншчыны да 1000 чалавек...

Кармілі нас "кавай-вадой", сьмярдзячымі пахлёбкамі, а за абы-што зьбівалі шомпаламі й нагайкамі. Амаль кожны чакаў хваробы й сьмерці як збаўленьня ад мукаў. Толькі некаторым удавалася ўцячы ў Чэхію й Вугоршчыну, а іншым у армію Юдзеніча, куды й мы лучылі..."

## 16. Канцэнтрацыйны лягер "Разьдзельная"

У канцэнтрацыйны лягер "Ст.Разьдзельная" ў Беластоку былі высланыя многія ахвіцэры з Беларускага палку ў Горадзеншчыне й іншыя дзеячы. Сярод іх быў камандант Горадні М.Дзямідаў, палк.Антонаў, С.Якавюк і іншыя. Ізноў дамо голас няшчаснаму мучаньніку польскіх лягероў - настаўніку Антонаву:

"У канцы верасьня 1919 г. зьмешаная ваенна-цывільная камісія, разгледзеўшы дзьве мае прозьбы аб звальненьні з лягеру "Домбія" (адна просьба была перададзена палкоўніку амэрыканскай місіі, аглядаўшай лягер), зволыніла мяне і я з пасьведчаньнем і за дармовы білет паехаў у Горадню на месца свайго жыхарства.

У Горадні свабодным я пажыў толькі 5 дзён. На 6-ты дзень мяне, ня гледзячы на пасьведчаньне аб "вольнасьці", арыштавалі, пасадзілі на ноч ў нейкі халодны будынак, а на другі дзень у 10 гадзін павялі мяне на вакзал, а стуль цягніком у Беласток у лягер "Разьдзельная", дзе й прышлося яшчэ прасядзець і зьнясьці вялікія беды да пачатку лютага 1920 г.

У лягеры я знайшоў горадзенскага пратаерэя а.Корчынскага, таксама паўторна арыштаванага й запісанага ў адну разам за мной паперыну.

Горадзенскі староста Рагалевіч і кіруючы аддзелам інтэрнаваньня Зьбяранскі не пажадалі выканаць загад цэнтральнай улады аб маім звальненьні...

У Беластоцкім лягеры мне прадставіўся яшчэ больш цяжкі малюнак жыцьця зьняволеных. У сырых, халодных бараках, на голых, у два паверхі, нарах валяліся голыя й галодныя мучанікі. Няспынныя эпідэміі сыпнога й брушнога тыфу, крывавая дызэнтэрыя касілі людзей.

З кожным днём эпідэміі расьлі й пашыраліся. Асабліва вялікі працэнт захворваньняў настаў у пачатку лістапада. Людзі гінулі, як мухі ўвосень, а захварэўшым толькі давалася ўвагі з боку адміністрацыі лягеру, колькі даецца тым жа мухам...

Захварэў тыфам малады дохтар, захварэў і памёр стары фельчар, памерлі дзьве сястры міласердзя. І той слабы мэдыцынскі дагляд за хворымі, які час ад часу бываў, зьнік. Стала выміраць у дзень па 50-70 чалавек.

Кожны ранак у гумно ня зносілі ўжо, а на вазах вывозілі памерлых за ноч людзей. Кіраваў паховінамі ў агульнай магіле Троцкі, які меў на гэта шырокія паўнамоцтвы ад каманданта лягеру. Ён здымаў з памерлых вопратку й абутак і гэтым гандляваў.

Я знаходзіўся ў крыху лепшых умовах у лягеры: у ахвіцэрскім бараку, не за дротам, а за кругавой нашай парукай адзін за аднаго. Мы самі атрымлівалі прадукты й варылі сабе страву. Але і ў нашым бараку з 12 жыхароў захварэла на тыф 9, з іх памерла 3 чалавекі.

Крыху палепшыліся санітарныя ўмовы, калі прыбыў у лягер расейскі земскі лекар. Ён зарганізаваў з ахвіцэраў палонны аддзел санітарнай дапамогі. Былі палепшаныя санітарныя ўмовы: хворых ізалявалі, у адным бараку адчынілі лязарэт.Гэта дапамагала многім ратавацца ад сьмерці.

Вось некаторыя лікі сьмяротнасьці гэтага лягеру сьмерці. У пачатку кастрычніка 1919 г., калі я лучыўу у лягер, у ім было каля 3000 інтэрнаваных і ваеннапалонных. Пры маім выхадзе з яго, у пачатку лютага 1920 г., у лягеры засталося каля 700 чалавек, звольнена з лягеру каля 200 чалавек, уцякло 20, астатнія 2000 - засыпаныя Троцкім у братніх магілах.

Жудасна, цяжка й крыўдна было наглядаць мукі й гібель беларускіх патрыётаў. Вось у адным бараку прытуліўся гуртох з 5 настаўнікаў з Слонімскага павету: І.Дварчанін, С. і А.Коскі, А.Пузыновіч і Вера Крывецкая. Два з іх - ахвіцэры - мелі права на прывільяваны ахвіцэрскі барак, але яны, як некалі біблейны Майсей, лічылі за лепшае цярпець разам з сваімі сябрамі.

Ляжаць усе яны без адзіялаў на голых нарах, без польтаў, галодныя, у сырым халодным бараку, цесна прытуліўшыся адзін да аднаго дзеля цяпла й чакаюць чаргі пераходу пад уладу пагрэбальніка Троцкага.

"За што вас інтэрнавалі ў лягер?" - запытаўся я ў настаўнікаў.

"Хацелася паставіць беларускі сьпэктакль, і сталі рыхтавацца да яго."

Вось усю трупу артыстых "ізалявалі" ад народу, як цяжкіх праступнікаў...

Пасьля 3-х месячных мукаў ад жывых, жыцьцярадасных вучыцеляў-артыстых беларускага тэатру засталіся адны цені, і гэтыя цені з вялікай рызыкай для жыцьця паставілі ўцякаць з лягеру. І ён уцёк - гэты гуртох беларускіх настаўнікаў.

На іншых нарах ляжаць два маладыя прапаршчыкі "бальшавікі". Скончыўшы 8 кл. гімназіі, пад пагрозай расстрэлу былі змабілізаваны бальшавікамі. Маладыя "бальшавікі" апынуліся ў палоне ў палякаў з надзеяй папасьці ў армію Дзянікіна. На перагоне Вільня-Горадня палякі іх разь дзелі, абрабавалі і ўзамен адабранай адзежы надзелі на іх лахмоцьце, а на ногі, на места ботаў,- парваныя калёшы і ў такім стане інтэрнавалі на павольную й мучаніцкую сьмерць...

У іншым кутку, бліжэй да выхадных дзьвярэй, скорчыўшыся ад болю непрыемнай хваробы-крываўкі, ляжаць мокрыя тры сьвежа захварэўшыя й чакаюць чаргі вынасу іх у ізалятар, а стуль пэўне ў распараджэньне Троцкага...

Спакойна ходзіць ля нараў толькі адзін бадзёры старац. "Я за сына", - кажа. "Сын мой, палкоўнік, прымусам забраны на вайну бальшавікамі, а палякі, як прыйшлі, забралі мяне сюды за яго, як быццам ня ведаюць бальшавіцкіх парадкаў і расстрэлаў за непаслухмянасьць. Ну што ж, мне ўсёроўна паміраць пара, але за што гінуць гэтыя маладыя людзі?"

Падобныя малюнкі і ў іншых "пралетарскіх" бараках, усюды так мучыліся, гінулі. Так, кажуць, мучыліся й гінулі зьняволеныя і ў іншых лягерох, як, напрыклад, у Берасьцейскай крэпасьці.

Пад канец нашай няволі сонейка заглянула і ў наша турэмнае вакенца. Прыехала амэрыканская місія. Сталі адзяваць і абуваць ужо нямногіх, што засталіся пры жыцьці ў лягерах. Амаль усе адзеліся й абуліся ў старую, а зрэдку і ў новую вопратку й абутак. Палепшыўся стол, палепшыўся й наш настрой. Сталі ажываць мерцьвякі. Прыехала вайсковая звальняючая камісія, пачалі звальняць патроху, а ўсьлед за ёй і наша камісія для звальненьня цывільных...

Тады быў звольнены з палону, між іншымі і палк. М.Дзямідаў.

У канцы цывільная камісія звольніла й мяне. Так я прайшоў усе этапы польскіх турмаў і канцэнтрацыйных лягераў сьмерці ды пабачыў трагэдыю сваго народу..."

**(Працяг будзе).**

**Пачатак у №№ 9-11.**

